Пётр Парашэнка падпісаў указ, які ўводзіць у дзеянне рашэнне Рады нацыянальнай бяспекі і абароны аб спыненні дагавора аб дружбе паміж Украінай і Расіяй.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

№ 74 (4326)

18 верасня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Адновім сяброўства!

Ну вось і падыходзіць да завяршэння дачны сезон. З наступленнем халадоў усё ж лепш сядзець у цёплай гарадской кватэры, чым змагацца з дрыжыкамі на лецішчы. А таму ці не пара тым, хто на летні сезон спыніў падпіску на «Народную Волю», аднавіць яе і далей бавіць вольны час, знаёмячыся з цікавымі, змястоўнымі матэрыяламі на яе старонках?

Каб атрымліваць «Народную Волю» з 1 кастрычніка, зазірніце, шаноўныя, у любое паштовае аддзяленне ці ў спецыялізаваны пункт «Белсаюздруку» да 26 верасня. Аформіць падпіску можна як адразу да канца года (на тры месяцы), так і на месяц, два. Мы – за аднаўленне сяброўства!



БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ

Аляксандр КЛАСКОЎСКІ, спецыяльна для «Народнай Волі»

## Дуля з макам замест хлеба з маслам

Калі б не дыскусія, што з'явілася днямі на сайце Радыё Свабода, дык публіка і не ведала б, што апазіцыя ўжо неяк рыхтуецца да прэзідэнцкіх выбараў. Ды і тое цяжка сказаць: рыхтуецца ці толькі звыкла ламае дзіды міжсобку. Гэта я прыгожа кажу, адзін жа з удзельнікаў перадачы ўжыў грубейшы вобраз: «Хопіць мерання піпіськамі».

Калі ж па сутнасці, то з дыскусіі паміж Андрэем Дзмітрыевым (аб'яднанне «Гавары праўду!»), Аляксеем Януковічам (Партыя БНФ) ды Юрасём Губарэвічам (рух «За Свабоду») вынікае, што першыя дзве структуры наважыліся выстаўляць на выбары ўласных вылучэнцаў, адзіны ж кандыдат будзе хіба што ад правацэнтрыстаў.

Увогуле ніякага драйву, ніякай надзеі на поспех у лідараў апазіцыі (калі яна яшчэ існуе ў строга палітычным сэнсе) не адчуваецца. Таму, бадай, і мяркуюць тыя ці іншыя арганізацыі ісці асобнымі калонамі. Паводле прынцыпу «не дагонім, дык хоць сагрэемся». Асобная калона – гэта нейкі свой, хай і сціплы, бюджэт на кампанію, нейкі піяр.

Сёння ж, як мне здаецца, лідараў турбуе не стратэгія перамогі (пра гэта і не мараць), а як не сесці ў лужыну на самым старце, як сабраць сто тысяч подпісаў за вылучэнне свайго кандыдата. Нагадаю, што на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года Анатоль Лябедзька (Аб'яднаная грамадзянская партыя) ды Сяргей Калякін («Справядлівы свет») праваліліся ўжо на гэтым этапе. З таго ж часу апазіцыя толькі аслабела: паменела актыву, рэсурсы практычна на нулі, аўтарытэт таксама ненашмат вышэйшы за нуль.

Падобна на тое, што збылася мара Аляксандра Лукашэнкі, які яшчэ ў 2005 годзе выказаў надзею, што праз нейкі час «і гэтай слабай апазіцыі ў нас не будзе». Раней афіцыйны лідар хоць гневаўся з трыбун на «пятую калону», цяпер жа і не згадвае. Бо апазіцыя перастала быць гульцом на палітычным полі, яе можна проста не браць у разлік.

Хтосьці скажа: так ім і трэба, гэтым няздарам! Грызліся міжсобку, слаба працавалі ў масах і г.д. Таму поўная маргіналізацыя – лагічны фінал.

Але ў такой выснове – толькі частка горкай праўды. Так, апазіцыя ў вырашальныя моманты не раз абірала найгоршыя сцэнарыі, наступала на граблі. Але ж праўда і тое, што маса ў свой час зрабіла стаўку на аўтарытарную стабільнасць. Як праўда і тое, што жорсткія аўтарытарныя сістэмы проста не дапускаюць існавання моцнай апазіцыі цягам доўгага часу: або яна выкарыстоўвае гістарычны шанц ды перамагае, або яе перамолваюць жорны сістэмы. У Беларусі адбылося другое. Цяперашні рэжым адгадаваў моцны сілавы кулак і мае вялікі запас трываласці ў сэнсе ўтаймавання пратэстаў. Што мы ўбачылі летась, калі былі хутка здушаны пратэсты «дармаедаў».

Карацей, ніякая «пятая калона» не замінае нязменнаму кіраўніцтву прывесці краіну да росквіту, ашчасліваць беларусаў вартым еўрапейскай краіны дабрабытам. Але што мы бачым? Каторы год улада не можа даць нават па няшчаснай тысячы рублёў сярэдняга заробку, пры тым што ў доларах ён быў вышэйшы яшчэ ў 2010 годзе.

Калі ВУП Кітая за 2012–2017 гады вырас на 52%, сусветны – на 20%, то беларускі – на... 0%. Цяпер нейкі рост ёсць, але слабы і кан'юнктурны, найперш за кошт падаражання нафты. Ляснецца яе цана, ці пахіснецца пад санкцыямі Расія – тут жа, хутчэй за ўсё, стане валіцца прывязаная да яе беларуская эканоміка.

І нават калі не рэалізуюцца апакаліптычныя сцэнарыі, то ўсё адно столь для цяперашняй беларускай мадэлі, паводле аўтарытэтных экспертаў, недзе блізу 2% росту ВУП за год, што ніжэй за сусветны тэмп. Працей кажучы, мы, верагодна, будзем усё болей адставаць ад развітых краін, спаўзаць на сусветныя задворкі.

Так што беларускі рэжым, знішчыўшы палітычную канкурэнцыю, зламаўшы механізм выбараў, атрымаў, я лічу, піраву перамогу. Самае ж прыкрае, што прайгралі ўсе. Маса беларусаў некалі паверыла, што дэмакратыю на хлеб не намажаш і найлепей аддаць лейцы моцнай руцэ. У выніку мы сёння прайграем тым посткамуністычным краінам, што абралі шлях рэформаў. Сярэдні заробак палякаў у ліпені склаў у пераліку 2735 беларускіх рублёў, эстонцаў у другім квартале – 3212 рублёў. А некалі ж палякі ездзілі да нас на закупы і зайздросцілі нашым вітрынам!

Беларускаму абывацелю варта зразумець: вяртанне канкурэнцыі ў палітыку патрэбнае не дзеля таго, каб пацешыць амбіцыі Дзмітрыева, Януковіча ці Губарэвіча. Проста там, дзе няма палітычнай барацьбы, ратацыі ўладных эліт, непазбежна наступае застой і дэградацыя. Бо кіроўныя вярхі думаюць не пра дыскамфортныя рэформы, падобныя да горкіх лекаў, а пра тое, як захаваць сваю ўладу. А народ замест хлеба з маслам атрымлівае дулю з макам.

І калі беларусы хочуць жыць на вартым Еўропы ўзроўні, усё адно давядзецца змагацца за дэмакратычныя перамены. Толькі ў яшчэ горшых умовах, страціўшы дзесяцігоддзі каштоўнага гістарычнага часу.

КАНТРАКТЫ

## Алена Кудравец убаюкала кітайцаў

Добрая вестка прыляцела ўчора ў Мінск з Пекіна. Дэлегацыя Беларускай калійнай кампаніі на чале з генеральным дырэктарам **Аленай Кудравец** змагла з поспехам завяршыць перамовы з кітайскім бокам. Цяпер калійныя ўгнаенні будуць пастаўляцца ў Паднябесную па цане 290 долараў за тону. Кантракт разлічаны на тэрмін па чэрвень 2019 года ўключна.

Такім чынам Беларусь выйграе на кожнай тоне аж 60 долараў.

**Раіса СВІРСКАЯ.**

КРЫМІНАЛ

## Дагуляліся...

Следчы камітэт Рэспублікі Беларусь выявіў групу махляроў, якія дзейнічалі ў гульнявых клубах сталіцы. Змяніўшы алгарытм у аўтаматах, яны незаконна завалодалі больш як 222 тысячамі рублёў.

Крымінальная справа на 11 махляроў будзе перададзена ў суд, а яшчэ шэсць чалавек знаходзяцца ў міжнародным вышуку.

**Расціслаў МІЛЬКЕВІЧ.**

СТАЛА ВЯДОМА

## Віталя Рымашэўскага выклікаюць у міліцыю

Павестку ў Бараўлянскі аддзел міліцыі атрымаў яшчэ адзін сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Віталь Рымашэўскі.

Яму належыць з'явіцца ў міліцыю сёння, 18 верасня.

– Хутчэй за ўсё, гэта адгалосак мітынгу, які адбыўся ў Курапатах 9 верасня, – мяркуе Рымашэўскі. – У павестцы, зразумела, пра гэта нічога не напісана. Там пазначана толькі, што мяне выклікаюць у «якасці асобы, у дачыненні да якой распачаты адміністрацыйны пратэст».

Аднак у міліцыю менавіта ў гэты дзень я ісці не збіраюся. Пра што і хацеў паведаміць супрацоўнікам МУС па тэлефоне, які пазначаны ў павестцы. Але на працягу чатырох дзён я так і не змог дазваніцца ў аддзел міліцыі па пазначаным нумары. Там проста ніхто не бярэ слухаўку.

Але яшчэ раз падкрэслю: у Бараўлянскі аддзел міліцыі я сёння ісці не збіраюся, бо ў мяне на гэты дзень даўно былі сямейныя планы.

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

СТОП-КАДР

## «Калі прыязджаю дадому, сэрца сыходзіць з арбіты»

Хлеб-соль ад землякоў.

Дом Пятра Клімука ў в.Камароўка Брэсцкага раёна.

Пётр Клімук са сваімі сёстрамі Антанінай Лушча (злева) і Нінай Амельянюк.

З аднавяскоўцамі.

Славуты касманаўт, двойчы Герой Савецкага Саюза Пётр Клімук знайшоў час у шчыльнай праграме Міжнароднага кангрэса Асацыяцыі ўдзельнікаў касмічных палётаў, які 9–15 верасня прайшоў у Мінску, завітаць да сваіх землякоў.

Клімук наведаў адразу дзве вёскі Брэсцкага раёна – Камароўку і Тамашоўку. У першай ён нарадзіўся, у другой – вучыўся. Прычым наведванне роднай школы было абавязковым пунктам у яго праграме.

У бацькоўскай хаце ў Камароўцы цяпер жыве 85-гадовая сястра касманаўта Антаніна. Другая сястра – 83-гадовая Ніна – з 17 гадоў пражывае ў Брэсце.

*«Заўсёды, калі прыязджаю дадому, сэрца сыходзіць з арбіты. Тут мая радзіма, маё гняздо. Адчуваю пачуццё самага глыбокага гонару за тых, хто тут жыве. Па праўдзе кажучы, не разумею, чым я заслужыў павагу, гонар, якімі мяне адорваюць... Тут я заўсёды адпачываю душой, адчуваю сябе маладым»*, – сказаў на сустрэчы з землякамі Пётр Клімук.

Дарэчы, па яго ініцыятыве заключана пагадненне аб супрацоўніцтве паміж Брэсцкім раёнам і Зорным гарадком Расіі.

(Фота БЕЛТА).

ЗАКУЛИСЬЕ

Анна КАНОПАЦКАЯ:

## «Дженнифер мне сказала: твои уши должны были гореть...»

*На днях депутат Палаты представителей Анна Канопацкая и другие белорусские политики были приглашены на встречу с новым Временным Поверенным в Делах США в Беларуси* ***Дженнифер МУР****.*

*«Народная Воля» поинтересовалась закулисьем этого рандеву.*

– Дженнифер Мур делала такой приветственный прием, поэтому что-то детально и глубоко обсудить не получилось, но вопросы о ситуации в Беларуси на этой встрече поднимались самые разные, – *рассказала Анна Канопацкая «Народной Воле»*. – Говорили и о назначении нового премьер-министра, и о прессинге журналистов. Это был такой общий разговор.

До этой встречи я уже немного общалась с Дженнифер Мур, сейчас планирую запросить встречу более глобальную.

Я общалась и с ее предшественником, бывшим Временным Поверенным в Делах США в Беларуси Робертом Райли. Накануне его отъезда из Беларуси я просила, чтобы он передал Дженнифер информацию о нашем с ним разговоре и тех вопросах, которые мы обсуждали. Судя по всему, просьба была выполнена. Потому что Дженнифер мне сказала: когда беседовали с Робертом, вспоминали о тебе, так что твои уши должны были гореть *(улыбается).*

**– Анна, а когда вы успели познакомиться с Дженнифер Мур? Она ведь совсем недавно приехала в Минск...**

– Работать надо активно! *(Улыбается.)* Мы пересекались на вечерних приемах по случаю дней независимости Украины и Словакии. Просто на приемах я тоже работаю, несмотря на то, что в социальных сетях иной раз выставляю фото с бокалом вина. На мой взгляд, такое неформальное общение более откровенное, это отличный способ завязать контакты.



**– Какое у вас впечатление от общения с Дженнифер Мур? И на каком языке вы общались?**

– Она разговаривает на английском. Как мне показалось, Дженнифер неплохо осведомлена о ситуации в Беларуси, она выступает за диалог, но в то же время готова требовать от властей соблюдения политических прав и свобод.

**Марина КОКТЫШ.**

ЭКСПЕРЫМЕНТ

## Ноччу трэба спаць, а не піць гарэлку

Падобна на тое, што Магілёўшчына сур'ёзна ўзялася за п'яніц. Каб ноччу яны спалі, а не сядзелі ў абдымку з «зялёным змеем», вобласць далучылася да рэспубліканскага эксперыменту па забароне на продаж алкаголю з 11 вечара да 7 гадзін раніцы.

**Васіль КАНЦАВЫ.**



УСМЕШКА МАСТАКА




## Партызанскія гены?

У начальніка ЦЭЦ Гарадзейскага цукровага камбіната знайшлі цэлы арсенал – кулямёт, аўтаматы, вінтоўкі, ручныя гранаты, тры ўзрыўпакеты і некалькі сотняў патронаў рознага калібру.

Мужчына затрыманы і змешчаны ў СІЗА, у дачыненні да яго Следчым камітэтам узбуджана крымінальная справа па ч.2 арт. 295 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь – «Незаконныя дзеянні ў адносінах да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў».

ВЯЛІКАЯ ПАЛІТЫКА

## Лукашэнка чацвёрты раз наведае Кубу

***Пра гэта ўчора паведаміла намесніца міністра замежных спраў Кубы Ана Тэрэсіта Гансалес Фрага на сустрэчы з намеснікам старшыні Палаты прадстаўнікоў Баляславам Піртуком, якая прайшла ў Мінску.***

Дыпламат заявіла, што беларускі лідар ужо тройчы наведваў Кубу, і гэты візіт, які можа адбыцца бліжэйшым часам, стане для яго чацвёртым. Спадарыня Фрага сказала таксама, што палітычныя дачыненні дзвюх краін знаходзіцца «на самым высокім узроўні». Яна дадала, што на Кубе з захапленнем назіраюць за тым, як Беларусь змагаецца з санкцыямі з боку ЗША і Еўрапейскага Саюза.

Фрага таксама адзначыла, што Беларусь і Куба заўжды падтрымліваюць адна адну на міжнароднай арэне. Так, у 2016 годзе Куба паспрыяла прыняццю Нацыянальнага сходу Беларусі ў якасці назіральніка ў Лацінаамерыканскі парламент.

ВІНШУЕМ!

## Аляксандра Герасіменя нарадзіла дачку

*Дзяўчынку назвалі Сафіяй.*

Учора ў сям'і беларускіх плыўцоў **Аляксандры Герасіменя** і **Яўгена Цуркіна** нарадзілася дачушка (рост – 53 сантыметры, вага – 3600 г).

Не так даўно Аляксандра заяўляла, што нават пасля нараджэння дзіцяці кропку ў сваёй кар'еры ставіць не збіраецца. *«У плаванні ў мяне засталася незакончаная справа – перамога на Алімпійскіх гульнях»*, – паведаміла спартсменка.

**Алесь СІВЫ.**

Мая шчырая ўдзячнасць усім, хто выказаў спачуванне ў сувязі з вялікім горам – смерцю сына Руслана.

Дай Бог, каб нікога з Вас, шаноўныя, не спасцігла падобнае няшчасце: самае страшэннае, што можа быць у жыцці для бацькоў, гэта калі заўчасна паміраюць іх дзеці.

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА,
профессор,
доктор экономических наук

# Испытание на прочность

Только за вторую половину августа курс доллара на БВФБ вырос на 5%, а стоимость валютной корзины белорусского рубля увеличилась на 3,5%. В первых числах сентября девальвация белорусской денежной единицы практически не знала передыху. Все субъекты хозяйствования, связанные с валютными делами, многие рублевые вкладчики сейчас всерьез напряглись. Первые просчитывают сулящие им отрицательные курсовые разницы, вторые – потери их сбережений в валютном эквиваленте, особенно если их депозиты безотзывные. И все гадают, когда падение белорусского рубля и его российского собрата прекратится? И что на этот счет думают в Нацбанке и правительстве?

Большинство аналитиков склоняется к тому, что главная причина дестабилизации белорусского рубля – это падение рубля восточной соседки, спровоцированное объявлением дополнительных американских санкций против экономики России. Достаточно было психологического фактора, так как главные санкции еще впереди, чтобы на финансовом рынке России началась паника, обрушившая его валютные курсы. А о том, насколько экономика Беларуси зависит от российской, не стоит лишний раз и распространяться.

Но ведь конкретно валютные курсы белорусского рубля формируются в процессе торгов на БВФБ. Что же побуждает участников этих торгов, с одной стороны, увеличить спрос на доллары, евро или российскую денежную единицу, с другой – сократить их предложение?

Во-первых, с недавних пор Нацбанк освободил экспортеров от обязательной 10%-ной продажи на бирже своей валютной выручки. Наблюдая девальвационное пике белорусского рубля, многие из экспортеров решили попридержать валюту, которая дорожает на глазах. Во-вторых, Нацбанк обычно скупал остаток валюты, не приобретенной участниками торгов. В-третьих, валютный рынок долгое время поддерживало, и в больших объемах, население чистой валютной продажей. Естественно, «народец» задумался: а стоит ли спешить продавать «заначки» для поддержания своего хилого жизненного уровня, если можно потерпеть и выручить поболей «зайчиков»? В августе банки Беларуси скупили у населения и предприятий на чистой основе лишь 80,8 млн долларов. Ранее только население продавало на чистой основе ежемесячно не одну сотню миллионов долларов.

Сегодня Нацбанк скорее продает на бирже валюту, проводя так называемую точечную интервенцию с целью притормозить девальвацию рубля. Для белорусских экспортеров, чтобы не нести потери на российском рынке, особо вредна быстрая девальвация белорусской денежной единицы именно к российской. В этой связи Минфин заявлял приемлемые границы курса нашего рубля к российскому как 3,1–3,2 за сотню «деревянных». Во всяком случае белорусский рубль зацепился за нижнюю планку. Но тот же Минфин подсчитывал, какие потери несут предприятия страны от отрицательных курсовых разниц и какие потери будут у бюджета при погашении валютного госдолга в пересчете на последние курсы. И там, и там – это сотни миллионов рублей. Потери бюджета от российского налогового маневра в следующем году оценены министерством в 600 млн рублей. Из-за этого минфиновцы сверстали республиканский бюджет на 2019 год без роста доходной части.

Если сначала на волне сверхпланового роста поступлений в страну валютной экспортной выручки Минфин заявлял, что из собственных источников в этом году погасит не 25% госдолга, как это обычно, а 50%, остальное – рефинансируя, то, оценивая последние события, видимо, понял, что поспешил. За январь–август госорганы потратили на погашение внешних и внутренних валютных обязательств 4 млрд долларов. Более того, намечен рост зарплат низкооплачиваемым бюджетникам типа медперсонала и учителей, число которых оказалось столь внушительным, что подумали о президентском фонде. Поэтому профицита бюджета на эти цели может не хватить, надо отдавать госдолги. Как известно, наши осчастливленные новой зарплатой «бюджетные» соотечественники навострят лыжи в основном в двух направлениях: в магазины за импортом и в банковские обменники, увеличив тем самым еще больше спрос на валюту.

До сих пор Нацбанк весьма удачно укрощал рост денежной массы и добился исторически минимальных показателей инфляции в стране. Однако сейчас налицо давление на него сложившихся обстоятельств. Повышать зарплату бюджетникам надо, государственные и свои валютные долги отдавать надо, сохранить золотовалютные резервы на уровне не менее 6–6,5 млрд долларов надо, поддерживать дешевыми кредитами государственные предприятия тоже надо. То, что этих резервов на 1 сентября 7,2 млрд долларов, ни о чем не говорит. В них золотой неприкосновенный запас оценивается в 1,8 млрд «зеленых», и, если вычесть то, что должны уплатить по госдолгу, останется «чистыми» всего ничего – 3,1 млрд долларов. Напомним, что на волне валютной паники только в декабре 2014 года население и предприятия купили у банков 1,35 млрд долларов. Как видим, финансово-валютная прочность денежных властей Беларуси никакая. Что удивляться, когда правительство Беларуси будет просить в сентябре кредит у правительства России в размере 1 млрд долларов, а Минфин разворачивается на восток. Министерство намерено разместить свои облигации на российском и китайском финансовых рынках. Европейские бонды нынче для нас дороги.

Главный регулятор много месяцев проводит политику снижения банковской системой кредитных и депозитных процентов. Его последняя ставка рефинансирования также исторически самая низкая – 10% годовых. Эксперты гадают, повысит ли ее Нацбанк, чтобы стабилизировать рубль. Согласно мнению некоторых российских СМИ, Банк России собирается повысить свою ключевую ставку уже в сентябре. На мой взгляд, центробанки не будут поддаваться панике. Но вопрос, когда будет дно падения национальных валют России и Беларуси, остается открытым.



ПАРАЎНАЕМ

# Мінімальная зарплата ў Польшчы зраўнялася з сярэдняй у Беларусі

З 1 студзеня 2019 года мінімальная заработная плата ў Польшчы складзе 2250 злотых. Гэта каля 380 еўра «на рукі». Пагадзінную стаўку таксама павялічаць – да 3,5 еўра ў гадзіну «бруднымі». Прычым кіраўнік прафсаюза «Салідарнасць» Пётр Дуда заявіў, што гэтай зарплатай іх арганізацыя не задаволена, і назваў яе "неабходным кампрамісам", яшчэ адным крокам да таго, каб мінімальная зарплата дасягнула ўзроўню 50% ад сярэдняй.

Але той мінімум, які ў Польшчы не задавальняе прафсаюзы, у Беларусі – практычна сярэдні заробак па краіне. Так, у ліпені (за жнівень яшчэ дадзеных няма) намінальная налічаная сярэдняя заработная плата работнікаў склала 973,8 рубля, гэта прыблізна 389 еўра па курсе Нацбанка. Але гэта "бруднымі". На рукі ў сярэднім беларусы атрымлівалі столькі, а то і менш, колькі ў Польшчы з новага года будзе складаць мінімальны заробак.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ДАРЭЧЫ

# 102 кілаграмы супраць 20

Журналісты інтэрнэт-газеты «Салідарнасць», паказваючы прорву паміж даходамі палякаў і беларусаў, падлічылі, колькі на польскую і беларускую «мінімалкі» можна набыць кураціны, свініны, малака, бананаў і гарэлкі.

Нагадаем, што мінімальная зарплата ў Беларусі складае 305 рублёў, або каля 122 еўра.

| Памер мінімальнай зарплаты | Курыца (тушка) | Свініна (выразка) | Малако 3,2% | Бананы | Гарэлка |
|---|---|---|---|---|---|
| 2250 злотых | 225 кг | 102 кг | 750 л | 300 кг | 64 бутэлькі |
| 305 рублёў | 72 кг | 20 кг | 179 л | 135 кг | 50 бутэлек |

РЭГІЁН

# Сметніцы «загаварылі» на пяці мовах

*На гродзенскім заводзе па ўтылізацыі і механічнай сартыроўцы адходаў да 890-годдзя Гродна вырабілі сметніцы-джэнтльмены.*



Сметніца выглядае так, нібы апранута ў фрак, адной рукой трымае кіёчак, а другой прыўзнімае капялюш-вечка, быццам выказваючы пашану таму, хто скарыстаўся іх паслугай. На капелюшы адно слова – "дзякуй" – на пяці мовах: па-беларуску, па-руску, па-польску, па-англійску і нават па-кітайску.

Такім чынам завадчане павіншавалі любімы горад з чарговым юбілеем. Гродна адзначыла 15 верасня 890 годоў з часу першага згадвання аб ім у летапісах.

Плануецца, што ў цэнтральнай частцы горада з'явіцца пакуль толькі шэсць сметніц-джэнтльменаў, але калі яны прыйдуцца даспадобы гараджанам і гасцям, то іх колькасць можа павялічыцца.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

РАРИТЕТЫ

# Привет из средневековья

В Несвижский музей-заповедник прибыли доспехи Радзивиллов из далекого далека – музея Фитцвильяма Кембриджского университета из Великобритании. Боевые, для турниров, богато декорированные, дорогие – вообще стоимость доспехов на мировых аукционах может доходить до миллиона долларов. А здесь настоящий XVI век! И имя мастера известно – Кольман Хельшмидт. Имена владельцев, князей Радзивиллов, ставят эти артефакты в самый элитный ряд. Все эти доспехи буквально сто лет назад хранились в коллекции замка в Несвиже.

Как сказал заместитель директора музея-заповедника "Несвижский замок" **Сергей Егорейченко**, экспонаты предоставлены Несвижу на долгосрочный депозит на три года, что само по себе неординарное событие.

– Идея долгосрочного депозита принадлежит британской стороне, мы бы такой срок побоялись сами озвучить. Так что первоначальные переговоры – это было два года назад – были легкие. Кстати, плату за пользование этими предметами искусства с нас тоже не потребовали. Сложными оказались растаможка, логистика. Это было связано с рядом требований британской стороны, предъявляемых к процедуре транспортировке и погрузке, к размеру грузовых ящиков. Спасибо за оргпомощь белорусскому посольству в Лондоне и "Белавиа"! Когда все висело на волоске, авиакомпания пошла нам навстречу.

Я поинтересовалась, как белорусским музейщикам вообще стало известно о радзивилловских доспехах в Великобритании.

– Мы знаем, где хранятся и экспонируются радзивилловские раритеты процентов на девяносто. Они есть в Париже, в Музее армии, но больше всего (порядка сотни предметов) в Нью-Йорке в "Метрополитен-музее". Но с двумя последними договориться пока не удалось.

**Елена МОЛОЧКО.**

ЗАКОН І СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

# Як пенсіянер з хворым сэрцам дамагаецца праўды ў судах

Інвалід другой групы з Гродна пенсіянер Мікалай Салянік *(на фота)* судом Кастрычніцкага раёна Гродна быў асуджаны на 625 рублёў за нібыта парушэнне парадку арганізацыі масавых мерапрыемстваў і за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі. Салянік сваёй віны не прызнаў. Абласны суд не задаволіў яго хадайніцтва, а ён у адказ пакінуў судовае пасяджэнне.



Мікалай Салянік – кіраўнік абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Ніколі не саромеецца сказаць, што ў свой час быў членам камуністычнай партыі, што ў 1994 годзе галасаваў за Аляксандра Лукашэнку, што быў пры ўладзе, працуючы на высокіх пасадах у райвыканкаме. Не баіцца прызнаць, што ў нейкіх выпадках не меў рацыі, памыляўся.

Мікалай Салянік заўсёды падкрэслівае, што не можа цярпець несправядлівасці, фальшу і падману. Ён інвалід другой групы, у яго хворае сэрца, тым не менш застаецца актыўным грамадзянінам. За флэшмоб, які ён зладзіў з калегам па партыі на Дзень Незалежнасці, быў аштрафаваны судом на 625 рублёў.

Салянік падаў апеляцыю ў абласны суд, але і там суддзя адмовіўся задаволіць хадайніцтва аб тым, каб да матэрыялаў справы далучылі флешку з відэа, якое падрабязна зафіксавала падзеі, што былі пакладзены ў аснову абвінавачання.

## «Беларусь – страна для жизни»

Сябры партыі АГП Мікалай Салянік і Аляксандр Лаўрэнцьеў 3 ліпеня, на Дзень Незалежнасці, сфатаграфаваліся ў паласатай, падобнай да турэмнай, вопратцы, трымаючы ў руках плакат «Беларусь – страна для жизни». Здымак размясцілі ў інтэрнэце. Паводле складзенага міліцэйскага пратакола, такім чынам яны ўдзельнічалі ў несанкцыянаваным пікетаванні праз інтэрнэт.

У судзе высветлілася, што яшчэ да размяшчэння здымка ў інтэрнэце Саляніка спрабавалі затрымаць людзі ў цывільным на аўтастаянцы, калі ён сядаў у сваю машыну. Маўляў, хацелі спраўдзіць, ці не датычная ягоная машына да знікнення хлопчыка ў Белавежскай пушчы.

У судзе міліцыянт сведчыў, што на аўтастаянцы ён і ягоны калега прадставіліся і паказалі дакументы, спрабавалі праверыць машыну Саляніка, але той, маўляў, не падпарадкаваўся іх патрабаванням і з'ехаў.

Салянік паказаў у судзе, што да яго на аўтастаянцы падышлі двое ў цывільным, не прадставіліся, пачалі казаць, што яго аўто ўдзельнічала ў аварыі, і патрабавалі праехаць з імі.

*«Але, паколькі маё аўто больш за два тыдні стаіць на аўтастаянцы, я добра ведаў, што ні ў якай аварыі яно не ўдзельнічала*, **– заявіў суду Салянік.** – *Я падумаў, што гэтыя людзі могуць быць небяспечнымі, і хуценька з'ехаў».*

## Суд стаў на бок міліцыянтаў

У другім выпадку супрацоўнікі АМАПа сведчылі, што яны знайшлі машыну Саляніка, які не падпарадкаваўся дзеянням супрацоўнікаў міліцыі, побач з домам Аляксандра Лаўрэнцьева.

Паводле слоў Саляніка, яны з Лаўрэнцьевым бачылі, што пад іх вокнамі дзяжурыць невядомая машына, паведамілі аб гэтым сваім знаёмым і выйшлі на вуліцу ў паласатай вопратцы. Салянік сімвалічна накінуў пятлю Лаўрэнцьеву на шыю і заклеіў рот скотчам.

– *Дзе ў нашым заканадаўстве запісана, што чалавек не можа выйсці на вуліцу ў паласатым адзенні?* – тлумачыў свае дзеянні ў судзе Салянік.

Супрацоўнікі АМАПа сведчылі, што яны прадставіліся, паказалі дакументы і прапанавалі прайсці ў машыну. А, маўляў, калі Салянік з Лаўрэнцьевым адмовіліся, то прымянілі фізічную сілу. Да ўсяго міліцыянты цвердзілі, што іх дзеянні былі запісаны на відэарэгістратар.

У той жа час і Салянік, і сведкі, якія бачылі, як вялося затрыманне, гаварылі аб тым, што людзі, якія ўдзельнічалі ў гэтымі, прыехалі на мікрааўтобусе без апазнавальных знакаў, былі апрануты ў цывільнае адзенне, дакументаў не паказвалі, а як толькі Салянік і Лаўрэнцьеў выйшлі з дома на вуліцу, груба і жорстка схапілі іх і пацягнулі ў машыну. І гэта нягледзячы на тое, казалі сведкі, што Салянік крычаў, што з'яўляецца інвалідам па сэрцы другой групы.

Сведкі палічылі дзеянні невядомых за выкраданне людзей, спрабавалі звярнуцца да супрацоўнікаў ДАІ, якія аказаліся побач, але тыя адмахнуліся і з'ехалі. Пазней сведкі напісалі заяву ў міліцыю аб выкраданні людзей, але там ім патлумачылі, што Салянік і Лаўрэнцьеў былі затрыманы супрацоўнікамі міліцыі.

Калі Саляніка даставілі ў аддзяленне міліцыі, там яму зрабілася дрэнна. Выклікалі «хуткую», і яна адвезла пенсіянера ў шпіталь, дзе ён праляжаў некалькі дзён. Потым яго выклікалі ў суд.

## Галоўны аргумент суддзя да справы не далучыў

Сведкі, якія бачылі, як людзі ў цывільным затрымлівалі Саляніка і Лаўрэнцьева, запісалі гэтыя падзеі на відэа. У судзе Салянік хадайнічаў, каб гэты запіс далучылі да справы: маўляў, на ім дакладна бачны ўсе падзеі, за якія яго судзяць.

Суддзя адмовілася задаволіць хадайніцтва, а трохі пазней, калі агучвала матэрыялы справы, між іншым зачытала, што запіс з відэарэгістратара міліцэйскай машыны, пра які так настойліва цвердзілі міліцыянты, аказваецца, быў сцёрты і адсутнічае ў матэрыялах справы.

У выніку, паводле рашэння суда, Мікалай Салянік быў пакараны штрафам у 25 базавых велічынь (625 рублёў). Суд над Аляксандрам Лаўрэнцьевым адбыўся раней. Яго пакаралі штрафам у 20 базавых велічынь (490 рублёў).

## Хадайніцтвы не задаволены

Мікалай Салянік не пагадзіўся з рашэннем Кастрычніцкага суда Гродна і падаў апеляцыю ў абласны суд. На самым пачатку разгляду ягонай скаргі суддзя запытаўся, мае Салянік якія-небудзь хадайніцтвы. Той адказаў, што ў яго два хадайніцтвы: каб да справы была далучана флешка з відэа і каб паўторна дапыталі чатырох сведак з яго боку, якія прысутнічалі пры яго затрыманні людзьмі ў цывільным і знялі ўсё гэта на відэа. Суддзя не задаволіў ніводнага хадайніцтва.

Салянік у адказ заявіў, што далей не мае намеру ўдзельнічаць у судовым працэсе, і дэманстратыўна пакінуў залу суда. Ужо без яго суддзя аб'явіў, што скарга Саляніка не задаволена.

## Справа мае палітычны падтэкст?

Мікалай Салянік патлумачыў, што далей не было сэнсу ўдзельнічаць у гэтым працэсе. Паводле яго слоў, такіх працэсаў было шмат, калі суддзя не прымае ніякіх довадаў, акрамя як ад міліцыянтаў. Такія справы, паводле меркавання кіраўніка гродзенскай абласной суполкі АГП, маюць палітычны падтэкст.

*«Я проста не магу больш удзельнічаць у гэтым падмане*, **– кажа Мікалай Салянік.** – *Тут жа відавочныя рэчы: ёсць відэа, на якім запісана ўсё ад пачатку і да канца, што тады адбывалася. 10 хвілін яго прагледзець – і ўсе кропкі можна было б расставіць на месца. Але не, суддзя бярэ пад увагу толькі паказанні міліцыянтаў. Ну немагчыма, калі так здзяйсняецца правасуддзе!..»*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**
**Фота аўтара.**

КОММУНАЛЬНОЕ ХОЗЯЙСТВО

## Через 7–10 лет горячую воду летом отключать не будут?

*Директор УП «Минсккоммунтеплосеть» Владимир Александров стал «Минчанином года» и в интервью агентству «Минск-Новости» рассказал о некоторых планах своего предприятия, которые касаются всех жителей столицы. Если прогнозы Александрова исполнятся – мы будем с горячей водой круглый год!*

**– Как обосновать тот факт, что летом традиционно на две недели отключают горячую воду?** – *поинтересовались журналисты.*

– По этому поводу часто ставят в пример Западную Европу и США. Но там совершенно иная исторически сложившаяся система теплоснабжения, которая имеет плюсы и минусы. Так, для отопления используются электроэнергия, газ. Есть и централизованные схемы, как наша, которые тоже останавливают на профилактику и ремонт сетей.

Трубопроводы необходимо испытывать повышенным давлением, чтобы зимой не было повреждений и даже кратковременных отключений в подаче тепла. 20 лет назад никого не удивляло зрелище, когда из-под земли вырывался столб горячего пара, который замерзал на деревьях. К людям, устранявшим такую аварию, относились как к героям. Если подобное ЧП произойдет сегодня, реакция будет кардинально иной.

Не принято вспоминать и о том, что раньше горячую воду отключали на 30 дней, теперь – максимум на 14, а в некоторых случаях этот период длится меньше. По нашему предприятию в текущем году он составляет в среднем 12 суток. Сокращение срока происходит благодаря замене старых сетей на современные предварительно изолированные (ПИ) трубопроводы. Таковых переложили уже 40% от общего количества. ПИ-трубы могут прослужить 30 и более лет и не нуждаются в испытаниях: их состояние в режиме реального времени отслеживается на мониторе компьютера. Кстати, при производстве работ по замене встречаются недовольные уже не столько сроками отключения, сколько раскопками. Надо понимать: придется потерпеть, временно пожертвовать комфортом, пока ПИ-трубы не будут проложены везде. Только тогда мы сможем отказаться от летних отключений горячей воды вообще, кроме разве что отдельных участков на день-два.

**– Когда это произойдет?**

– В Минске, думаю, лет через 7–10.

**– А почему сегодня продолжаются отключения в домах, к которым уже подведены ПИ-трубы?**

– Дело в том, что большинство из них проложены отдельными отрезками, соединенными со старыми сетями, а не цельно от теплоисточника до потребителя. Кроме того, есть документ, обязывающий производить опрессовку сетей. Он появился до применения ПИ-труб. С одной стороны, его нецелесообразно отменять до полной модернизации трубопроводов, но с другой – такие испытания не идут на пользу ПИ-трубам. По нашему хозяйству планируем этот вопрос решать совместно с регламентирующими организациями.

Стоит, по-моему, рассмотреть и такой вариант. Строится атомная станция, и пора уже думать о применении электронагрева для получения горячей воды даже на период ремонта котельных и ЦТП. Почему в Германии почти нет отключений? Работают газовые и электрокотлы. Мы уже реализуем проект на котельной на ул. Прилукской по внедрению гибридной схемы нагрева воды: для выработки тепла в разрезе суток будут использоваться и газ, и электроэнергия. Полагаю, однажды такие схемы будут применять более широко.

НАША ГІСТОРЫЯ

# «Тэрмін «вызваленне» быў і застаецца элементам савецкай прапаганды»

*8 верасня ў інтэрнэце з'явілася петыцыя з заклікам зрабіць 17 верасня «Днём Уз'яднання Беларусі». Ініцыятарам выступіла «суполка арганізацыйнага камітэта па стварэнні Нацыянал-Бальшавіцкай Партыі ў Рэспубліцы Беларусь». За першы тыдзень пад петыцыяй сабралі… 47 подпісаў.*

*Яшчэ 30 кастрычніка 1939 года Народны сход Заходняй Беларусі абвясціў 17 верасня Днём вызвалення працоўных Заходняй Беларусі ад прыгнёту буржуазіі і памешчыкаў. Гэтае свята было ўрачыста адзначана толькі аднойчы – у 1940 годзе. З заканчэннем Другой сусветнай вайны яго прыбралі з афіцыйнага календара, каб не пакрыўдзіць новага саюзніка СССР – Польскую Народную Рэспубліку.*

*Толькі ў верасні 1989 года зноў вярнуліся да ідэі адзінага свята – Дня ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР. Праўда, цяпер у якасці кропкі адліку акрамя 17 верасня называлася 28 кастрычніка. Менавіта тады Народны сход у Беластоку прыняў дэкларацыю пра ўваходжанне Заходняй Беларусі ў склад БССР.*

*Урэшце 11 студзеня 1990 года Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР быў вызначаны Дзень уз'яднання Заходняй Беларусі з БССР у якасці свята, якое прыпадала на 14 лістапада. Менавіта ў гэты дзень у 1939 годзе Вярхоўны Савет БССР афіцыйна ўключыў Заходнюю Беларусь у склад рэспублікі.*

*Аднак ці можна лічыць падзеі верасня-лістапада 1939 года «святам нацыянальнага вызвалення і ўз'яднання»? На гэты конт свой погляд маюць гісторыкі* ***Аляксандр СМАЛЯНЧУК*** *і* ***Алесь БЕЛЫ****.*

### Аляксандр Фёдаравіч СМАЛЯНЧУК, доктар гістарычных навук, прафесар Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта (Вільнюс), дырэктар Інстытута гістарычных даследаванняў (ЕГУ), заснавальнік інтэрнэт-праекта «Беларускі архіў вуснай гісторыі».



Народныя гулянні ў Слоніме 18 верасня 1939 г.

**– Якое значэнне падзей верасня 1939 года ў гісторыі Беларусі?**

– Аб'яднанне беларускай зямлі і беларускага народа ўвосень 1939 года – адна з найважнейшых падзей нашай гісторыі ў XX стагоддзі. Толькі нельга забываць, што гэтае аб'яднанне адбылося ў сталінскім ГУЛАГу пасля паразумення паміж Сталіным і Гітлерам, якое таксама прывяло да пачатку Другой сусветнай вайны.

**– Як жыхары Заходняй Беларусі прынялі прыход Чырвонай Арміі ў верасні 1939 года?**

– Дадзеныя вуснай гісторыі дазваляюць сцвярджаць, што значная частка насельніцтва Заходняй Беларусі, у тым ліку праваслаўныя беларусы і частка яўрэйскай супольнасці, віталі прыход Чырвонай арміі. Міжваенная Польшча не стала сапраўднай Айчынай для многіх жыхароў Заходняй Беларусі, якія адчувалі сябе людзьмі «другога гатунку». Але хутка радасць змянілася расчараваннем у палітыцы «першых саветаў» і страхам перад рэпрэсіямі. У той жа час агрэсія СССР для палякаў была сапраўднай трагедыяй. Менавіта яны сталі «ахвярай №1» для савецкай улады і яе карных органаў. Важнай старонкай гэтай трагедыі быў удзел беларусаў і яўрэяў у расправах з польскім насельніцтвам. Звычайна яны былі інспіраваны новай уладай, якая імкнулася чужымі рукамі праводзіць палітыку рэпрэсій, але гэта не здымае адказнасці з непасрэдных забойцаў і рабаўнікоў.

**– Ці было гэта вызваленне або заняволенне? Ці было аднадушша ў гэтым плане?**

– Тэрмін «вызваленне» быў і застаецца элементам савецкай прапаганды. Ні Сталін, ні Гітлер ніколі не думалі пра вызваленне беларусаў. Гэта было заняволенне, і нават бяднейшая частка насельніцтва Заходняй Беларусі вельмі хутка гэта адчула і зразумела. Вось толькі страх не дазваляў казаць пра гэта ўголас.

**– Якімі запомніліся салдаты Чырвонай арміі сведкам тых падзей?**

– Вусныя ўспаміны сведак наступлення Чырвонай арміі сведчаць пра расчараванне многіх мясцовых жыхароў з нагоды знешняга выгляду, тэхнікі і ўзбраення «першых саветаў». Савецкая прапаганда крычала пра магутнасць Чырвонай арміі і СССР, а выгляд салдат і афіцэраў сведчыў зусім пра іншае. Сведкі распавядалі пра галодных і змучаных салдат, што не мелі нават добрых ботаў, а коні ў іх былі памерам з сабаку, вінтоўкі боўталіся на шнурках...

**– Як на заканадаўчым узроўні адбылося ўключэнне Заходняй Беларусі ў склад БССР?**

– Далучэнне Заходняй Беларусі заканадаўча было аформлена 14 лістапада 1939 года, калі сесія Вярхоўнага Савета БССР прыняла ў склад рэспублікі Заходнюю Беларусь. Але насамрэч да чэрвеня 1941 года захоўвалася старая «рыжская» мяжа з савецкімі памежнымі заставамі, якая па-ранейшаму падзяляла Беларусь. Жыхары яе заходняй часткі не мелі магчымасці свабодна наведваць усход БССР і яе сталіцу. Толькі агрэсія нацысцкай Германіі канчаткова зліквідавала гэтую мяжу…

**– Як праходзіла палітыка саветызацыі ў Заходняй Беларусі? Якую ролю ў гэтым мелі рэпрэсіі?**

– Рэпрэсіі супраць «сацыяльна і нацыянальна чужых» былі галоўным элементам палітыкі саветызацыі. Фактычна толькі шляхам рэпрэсій сталінскі СССР мог забяспечыць уласнае панаванне на землях Заходняй Беларусі. Іншых рэсурсаў камуністы не мелі.

**– Ці дапускаліся выхадцы з Заходняй Беларусі да кіраўніцтва ўключаных у склад БССР тэрыторый?**

– «Першыя саветы» таксама засталіся ў памяці як час панавання «ўсходнікаў». Менавіта яны былі галоўным кадравым рэсурсам новай улады. Мясцовыя жыхары мелі шанц трапіць толькі ў лакальныя органы ўлады ніжэйшага ўзроўню, напрыклад, у мясцовыя сялянскія камітэты. Даверу да «тутэйшых» ні Мінск, ні Масква не мелі.

### Алесь БЕЛЫ, доктар гуманітарных навук, аўтар кніг па гісторыі беларускай кухні.

**– Якое значэнне, на вашу думку, мелі падзеі верасня 1939 года для гісторыі Беларусі?**

– Азіраючыся на 17 верасня і ягоныя непасрэдныя наступствы, я бачу перш за ўсё каласальныя дэструктыўныя наступствы: ліквідацыю прыватнай уласнасці, рэпрэсіі супраць уласнікаў і носьбітаў рэлігійнага светапогляду, жорсткую ўніфікацыю мыслення і грамадскай дзейнасці, сфальсіфікаваныя «выбары». Канешне, я шаную сучасныя межы і лічу іх у асноўным гістарычна справядлівымі – у маштабе тысячагоддзя. Але гэтыя межы ўсталяваны не ў выніку падзей 1939 года, а ў выніку 1945 года. На перамогу ў Другой сусветнай вайне мы можам спасылацца і дзеля абгрунтавання нашай тэрытарыяльнай цэласнасці. Гэтая перамога непараўнальна больш маральная, чым драпежніцкі ўдар у спіну міжваеннай польскай дзяржаве, якая, нагадаю, перад тым адмовілася далучыцца да паходу Гітлера на ўсход.

А негатыўныя наступствы верасня 1939 года мы перажываем і дагэтуль.

**– Ці існавала розніца ў эканамічным становішчы і пабытовым жыцці жыхароў Заходняй Беларусі і БССР да 1939 года? Ці сапраўды Заходняя Беларусь была аграрным прыдаткам Польшчы?**

– Мне здаецца, першае пытанне – рытарычнае, бо ўсе ведаюць, што жыццё ў міжваеннай Польшчы было нашмат вальнейшым і заможнейшым, чым у СССР. Асабліва ў эканамічным плане, пасля пераадолення сусветнага эканамічнага крызісу, пасля 1934 года. Кожны меў магчымасць працаваць на сябе, а калі не мог добра зарабіць на радзіме – выязджаў ці то ў Латвію, ці то ў Амерыку. І часта вяртаўся ўжо з пачатковым капіталам. Продкі маёй жонкі, адной нагой заможныя сяляне, другой – месцічы-пачаткоўцы, мелі дом і крамку ў Баранавічах і хутар пад горадам, некалькі дзясяткаў гектараў. Я ўпэўнены: калі б не 1939 год і не вайна, што прыйшла следам, сёння мы жылі б не горш за палякаў.

На другое пытанне адказаць складаней. А ці была даваенная Беларусь адсталым аграрным рэгіёнам СССР? Індустрыялізацыя абодвух частак сучаснай Беларусі пачалася амаль адначасова. На ўсходзе – дырэктыўна, з першай «пяцігодкі», на захадзе – пераважна высілкамі мясцовага капіталу, але і тут перад вайной пачалі паўставаць вялікія прадпрыемствы. Прадукцыя гуты (шкляного завода) «Нёман» перад вайной прадавалася па ўсім свеце, можа, на якія паўкроку адстаючы ад грэбня тагачаснай моды, чаго мы сёння не назіраем. І заўважце, пасля вайны Саветы не спяшаліся праводзіць індустрыялізацыю Заходняй Беларусі, не давяраючы лаяльнасці мясцовых жыхароў. Таму тэзіс пра «аграрны прыдатак» з вуснаў прасавецкіх прапагандыстаў гучыць досыць цынічна.

**– Ці існуе нейкая рэгіянальная розніца паміж тэрыторыямі, якія да 1939 года знаходзіліся па розныя бакі мяжы? Калі так, то ці істотныя гэта змены і ўвогуле ў чым гэта праяўляецца?**

– Па-першае, рэгіянальная розніца паміж гэтымі тэрыторыямі – гэта вынік зусім не толькі перыяду 1915–1939 гадоў. Асабліва калі мы кажам пра паўночную частку заходняй Беларусі, пра ўсход гістарычнай Літвы. Паўночная частка мяжы паводле Рыжскай дамовы 1921 года – гэта ў аснове сваёй старая літоўска-руская мяжа, месцамі тысячагадовай даўніны. Розніца, безумоўна, існуе дагэтуль, хаця, канешне, сацыяльныя групы, якія традыцыйна былі носьбітамі гэтага гістарычнага адрознення, у 1940-х былі знішчаны або вымушаны эмігрыраваць. Але архітэктура, літаратурныя помнікі, а часткова – працоўная і сямейная этыка – дагэтуль нагадваюць пра істотную адрознасць з Усходам. І гэта ўздзейнічае на адукаваную частку перасяленцаў з Усходу і прымушае, прынамсі, некаторых з іх адчуць адказнасць за асэнсаванне і культываванне гэтых адрознасцяў. У тым ліку значна старэйшых за XX стагоддзе. Мяне, напрыклад, моцна засмучае, што тысячы літоўскіх тапонімаў Панямоння застаюцца незразумелымі яго сучасным жыхарам. У сваім рэгіёне я па меры магчымасці стараюся іх тлумачыць і папулярызаваць. Іншы прыклад – частковая пераемнасць уласнасці. Я жыву ў доме, набытым у законных гаспадароў – у нашчадкаў сям'і, якая жыла на гэтым месцы задоўга да 1939-га або 1921 года, – у выніку звычайнай рынкавай здзелкі. На ўсходзе такое амаль немагчыма. У нашым Валожынскім раёне вельмі шмат такіх перасяленцаў, і большасць з іх так ці інакш апелюе да гэтай меркаванай пераемнасці, часам нават неўсвядомлена. Ну а калі вас цікавіць эканамічнае вымярэнне – дык на захадзе сённяшняй Беларусі нашмат болей моцных сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, такіх як агракамбінат «Сноў» і іншых. Псіхалагічная сувязь з зямлёй, якую геніяльна выразіў Рушчыц на аднайменнай карціне, тут размыта не ў такой ступені, як над Дняпром.



Савецкі танк у Слоніме 18 верасня 1939 г.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Што там, за сінім плотам?

*Некалькі гадоў таму на месцы зруйнаванага аўтавакзала «Маскоўскі» з'явіўся даўжэзны сіні плот. Будаўніцтва шматфункцыянальнага комплексу на рагу праспекта Незалежнасці і вуліцы Філімонава задумаў расійскі «Газпром».*

*«Народная Воля» неаднаразова пісала пра гэты даўгабуд. Не магла б газета распавесці: калі будзе і ці будзе пабудаваны гэты аб'ект?*

**Сяргей Кірылаў, Мінск.**

– Будаўніцтва шматфункцыянальнага комплексу «Газпром-центр» распачалося тры гады таму. Да таго, як пляцоўку плошчай 8,27 гектара абнеслі сінім плотам, нягледзячы на пратэсты мінчан, быў зруйнаваны аўтавакзал «Маскоўскі».

Першапачаткова планавалася, што інфраструктура будучага комплексу будзе складацца з офіснага будынка, гасцініцы, фізкультурна-забаўляльнай часткі, медцэнтра і паркінга.

Самы высокі будынак павінен быў налічваць 35 павярхаў. Але з часам гэтыя планы былі скарэкціраваны. І ў 2016-м будоўлю «замарозілі».

Напрыканцы таго ж года «Газпром» пачаў працэдуру



кансервацыі аб'екта. Прычына такога кроку ляжала на паверхні – скарачэнне фінансавання праекта з боку расійскага інвестара.

– «Газпром» удакладняе як аб'ёмы інвестыцый, так і памеры комплексу. Думаю, у гэтым годзе ў нас з'явіцца канкрэтыка. Ёсць дакладнае даручэнне кіраўніка дзяржавы, што да 2020 года работы павінны быць завершаны. Зараз мы працуем з ААТ «Газпром трансгаз Беларусь», каб выканаць гэтае даручэнне, – гаварыў яшчэ год таму старшыня Мінгарвыканкама Андрэй Шорац.

Дарэчы, на пачатку гэтага года з'явіліся чуткі аб тым, што новым генпадрадчыкам будаўніцтва «Газпром-центра» стане італьянская кампанія Codest, а будаўнічыя работы адновяцца вясной.

Днямі карэспандэнт «Народнай Волі» пабываў на месцы даўгабуду. Будоўля як стаяла, так і стаіць «замарожанай» – ні працуючых на тэрыторыі будаўнікоў, ні тэхнікі заўважана не было. На будоўлі мёртвая цішыня. Пасярод агароджанай тэрыторыі знаходзіцца бетонны каркас у некалькі паверхаў. Па перыметры бетонныя пралёты абцягнуты будаўнічай стужкай.

Адзінае, што за апошнія гады там змянілася, – пашпарт аб'екта. Калі раней там было напісана, што аб'ект будзе здадзены ў 2018 годзе, то зараз дату пасунулі на два гады – да 30 снежня 2020-га.

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

РОДНАЕ СЛОВА

## Адам Глобус запрашае…

З кастрычніка распачынае сваю працу **Школа крэатыўнага пісьма Адама Глобуса «Літара»** пры Беларускім ПЭН-цэнтры.

«*У праграме школы – азнаямленне, вывучэнне і практыкаванне ў формах літаратурных мініяцюр (дзённікавы запіс, хоку, грэгерыя) на прыкладзе класікаў сусветнай і беларускай літаратуры: Сэй-Сёнагон, Янкі Брыля, Басё, Рамона Гомеса дэ ля Серны і іншых*, – расказваюць у ПЭН-цэнтры. – *Чытанне і пісанне тэкстаў навучыць маладых людзей больш сур'ёзнаму стаўленню да літаратуры і творчасці ўвогуле, дапаможа лепей зразумець сябе і людзей наўкола, асэнсавана падыходзіць да выбару жыццёвых шляхоў*».

Заняткі ў «Літары» будуць адбывацца ад першай паловы кастрычніка 2018 года да канца мая 2019 года ў Мінску. Навучанне ў школе бясплатнае. Да навучання запрашаюцца дзяўчаты і хлопцы ад 15 да 18 гадоў уключна. Свае заяўкі яны могуць дасылаць на электронную скрыню **shkola.litara@gmail.com да 30 верасня 2018 года**.

КАБ ПОМНІЛІ

## Ушанавана памяць Міколы Арочкі

*У вёсцы Вецявічы Слонімскага раёна на хаце, дзе нарадзіўся і жыў апошнія 28 гадоў пісьменнік і літаратуразнавец, доктар філалагічных навук Мікола Арочка (1930–2013), з'явілася памятная шыльда.*

М.Арочка – аўтар многіх кніг паэзіі, а яго драматычная паэма «Судны дзень Скарыны» вывучаецца ў сярэдняй школе. У апошнія гады жыцця пісьменнік працаваў над маштабным творам «Каранацыя Міндоўга», дзеянне якога разгортваецца ў Вялікім Княстве Літоўскім (летась апублікаваны ў альманаху «Новы замак»). Як літаратуразнавец даследаваў творчасць Валянціна Таўлая, Максіма Танка і Аркадзя Куляшова.

Нягледзячы на тое, што М.Арочка доўгі час працаваў у Нацыянальнай акадэміі навук, калегі-навукоўцы пакуль ніяк не парупіліся пра ўшанаванне яго памяці. Спадчына пісьменніка цалкам не сабрана і не выдадзена, а шыльда на хаце выраблена і ўсталявана яго малодшымі сябрамі са Слоніма на грамадскія ахвяраванні.

**Андрэй КОРЗУН.**

ПАМЯЦЬ

# Вальс з Нінай Мацяш

Прыйдзе зноў зацішнае бабіна лета, мільгане ў пахаладалым паветры лёгкавейнае павуцінне, і мы чарговым разам паедзем у Белаазёрск, да Ніны Мацяш. Дарога няблізкая – і наўспамінаемся, і нагаворымся, і вершаў наслухаемся. Абавязкова хто-небудзь прыхопіць дыск з запісам яе голасу, і ён будзе нас саграваць у нашай пілігрымцы, ствараючы ілюзію, што і Ніна Язэпаўна невідочна прысутнічае ў машыне. І бадзёрыць нас, і падтрымлівае на духу, як неаднойчы рабіла ў жыцці.

Гэта выглядала сапраўдным дзівам – чалавек у інвалідным вазку быў крыніцай жыццёвага аптымізму для маладзейшых і абсалютна здаровых людзей. Ніхто ніколі не чуў ад Ніны Мацяш ніякіх скаргаў, не бачыў яе слёз. І вершы ў яе не слязлівыя, хоць да вобразу слязы паэтка звярталася даволі часта. Але – менавіта да вобразу. Як гэта зрабіў, напрыклад, рэжысёр Мэл Гібсан у фінале свайго вядомага фільма «Пакуты Хрыстовы». Памятаеце, там Божая сляза падае з галавакружнай вышыні на Галгофу, дзе ўкрыжаваны Хрыстос. І ўся гісторыя чалавецтва мільгае ў той усеабдымнай слязе.

Не жадаю нікому ні болю, ні плачу, але згадайма, якім абноўленым, прасветленым і падабрэлым бачыцца нам навакольны свет пасля слёз! Вось і Ніну Мацяш цікавіў мікракосм слязы, яе сусвет, спалучаны з іншым падобным сусветам. Нездарма ў адным з яе вершаў чатыры разы рэфрэнам паўтараецца радок: «О, як твая сляза ў маю слязу глядзела!»

Калі б спатрэбілася ахарактарызаваць вершы Ніны Мацяш адным-адзіным словам, я назваў бы іх далікатнымі. Гэта не азначае, што паэтка цуралася грамадзянскіх тэм, зусім не. Але прызванне яе – менавіта ў лірыцы, якая не можа быць недалікатнай.

*Ноч. Ні зыку. Ад стала дападае*
*Ясначолых кацярынак дыханне.*
*Над зямлёю ледзьве-ледзьве світае,*
*А ўва мне і апоўначы – ранне.*
*Скуль узяўся ты ў мяне гэткі,*
*Што ва ўсенькай старане наскай*
*Кветкі толькі ад цябе – кветкі,*
*Ласка толькі ад цябе – ласка?..*

Караценькі верш, але як у ім усё выверана і ўзважана – не раўнуючы як на фармацэўтычных вагах! Гэта якраз той выпадак, калі «*ўсе словы дарэчы, усе ўчынкі да месца, усе стрэлы ляцяць у цэль*» (Алесь Разанаў).

І яшчэ адзін «учынак да месца» хочацца прыгадаць. Помню, са



**Валянціна Коўтун, Данута Бічэль, Ніна Мацяш, Уладзімір Караткевіч і Ларыса Геніюш. Мінск, Дом літаратара, 1981 год.**

здымачнай групай Беларускага тэлебачання прыехаў я ў Белаазёрск: тэлевізійнікі – рабіць фільм пра Ніну Мацяш, я – браць інтэрв'ю. Пакуль аператар прыладкоўваў камеру, Ніна Язэпаўна пад'ехала на сваім вазку да бел-чырвона-белага сцяга і сказала, што ён мусіць пры здымках быць абавязковым фонам.

Ішоў пасляэферэндумны 1996 год… Аператар разгублена патаптаўся за сваім трыножнікам, параіўся са сцэнарысткай і – пачаў здымаць. Надзіва, той тэлеўрок яшчэ паспеў прайсці ў эфір.

Аднойчы мы прыехалі ў Белаазёрск са светлай памяці дударом Зміцерам Сідаровічам. Проста на беразе Белага возера ён выцягнуў дуду і зайграў – сцішэлай вадзе, крыклівым чайкам і сонцу, што сляпуча адбівалася ў затоцы. І гукі дуды ляцелі далёка-далёка – да каміноў электрастанцыі, да гарадскіх шматпавярховікаў, да вёскі Нівы, дзе ў мнагадзетнай сям'і Язэпа і Алены Мацяшоў 20 верасня 1943 года, на мяжы смарагдавай і залатой восені, нарадзілася дачушка Ніна. Там, на Бярозаўшчыне, яна вырастала і сталела як паэтка. Засвоіўшы ўрэшце і найвышэйшы паэтычны пілатаж – пускаць у свет словы ўласнай гадоўлі. Бо хоць у самым поўным беларускім слоўніку больш за 100.000 слоў,



**Пасля выступлення ў Белаазёрскім Доме культуры з Васілём Сёмухам, Артурам Вольскім, Алесем Разанавым, Уладзімірам Арловым, Лявонам Баршчэўскім і Міхасём Скоблам. 1999 год.**

сапраўдным паэтам іх не хапае, і яны даствараюць мову – шэдэўральны твор, які давершыць, даканчыць, дапісаць проста немагчыма. Скажам, прыдумвалі новыя словы Уладзімір Дубоўка і Рыгор Барадулін, засяроджана вынаходзіць наватворы наш сучаснік Алесь Разанаў.

Стварыла свой міні-слоўнічак і Ніна Мацяш. Вось пушчаныя ёю ў беларускі свет словы: прыластаўчыцца, угнездаваць (у сэрца), апірка, святліна, вільгота, дніна, чуйнар, сыплівы (пясок), вогніцца, сонечніцца…

Чытайма яе паэзію (арыгінальную і перакладную) – і лягчэй перажывём час культурнага зацьмення, якое апусцілася на нашу грэшную зямлю. Чытайма, бо там – святло, там дэфіцытныя на сёння любоў і міласэрнасць, а яшчэ там – безліч афарызмаў-падказак на ўсе выпадкі жыцця. Накшталт гэтага: «*Гасподзь схіляецца да ўсіх, / ды ніцых духам Ён не чуе*».

Неяк я не стрымаўся і наўпрост запытаўся ў Ніны Язэпаўны, як ёй, нягледзячы на стан здароўя, удаецца не толькі самой пазбягаць гэтага ніцадушша, але і пазбаўляць ад яго другіх людзей? І ў адказ пачуў: «*Ой, я на такія тэмы і гаварыць баюся. Я перакaнана ў адным: чалавек прыйшоў на зямлю не дзеля агрэсіі і разбурэння, ён прыйшоў дзеля любові, каб пашыраць вакол сябе святло, гармонію і красу. Калі ты знаходзішся ў цёмным пакоі, і на цябе ціснe цемра – чыркні хоць сярнічкай, запалі свечачку. І цемра адступіць*».

Ніна Мацяш запальвала ўсе свае свечкі, усе свае лямпы – і цемра адступала. Яе прастора заўсёды была светлай, і светлыні хапала на ўсіх. І нават сёння хапае. Сапраўдныя паэты – як далёкія зоркі: нават даўно згаснуўшы, яны працягваюць дарыць нам сваё святло.

Прыгадваецца і наша апошняя сустрэча – 17 снежня 2008 года. Мы прыехалі на Брэстчыну з паэтам Васілём Жуковічам і бардам Алесем Камоцкім. Выступілі ў Бярозаўскай СШ №1, дзе дырэктарам выдатны педагог і сябра Ніны Мацяш Мікола Жуковіч, завіталі ў Белаазёрскую гімназію – па запрашэнні мілай Галіны Скарына, таксама яе сяброўкі. А перад трэцяй сустрэчай, у Белаазёрскім электрамеханічным каледжы, заехалі па Ніну Язэпаўну (раней дамовіліся, што яна да нас далучыцца).

Сустрэла нас паэтка проста з парогу… падарункамі. Кожнага адарыла сваёй пяшчотнай *пёркаграфіяй* – невялічкай карцінай, дзе замест фарбаў выкарыстоўвалася птушынае пер'е. А потым выказала сумнеў, ці змагу я яе данесці да машыны. На маё рашучае «не сумнявайцеся» прапанавала ўсё ж патрэніравацца ў кватэры. Я падняў яе з вазочка, лёгкую, як пушынка, і закружыўся па пакоі, як у вальсе. Зрабіў некалькі кругоў і падзякаваў за танец. Ніна Язэпаўна ўзрушана цмокнула мяне ў шчаку і неяк разгублена прызналася, што не танцавала ўжо гадоў трыццаць.

На сустрэчы ў каледжы яна была ў цэнтры ўвагі – чытала вершы і пераклады з нядаўна выдадзенай у Мінску анталогіі «Галасы з-за небакраю», разам з навучэнцамі натхнёна спявала «Зорку Венеру» і «Калыханку маме».

Вярнуўшыся дахаты, мы зноў трошкі павальсавалі. А потым Ніна Язэпаўна папрасіла дастаць з верхняй паліцы томік Сент-Экзюперы ў яе перакладзе і надпісала на развітанне: «…Дык няхай не развейваецца сардэчнае святло заўсёднага нашага сумоўя!»

А ўсяго праз дзень, 19 снежня, паэткі не стала.

Але святло сапраўды не развейваецца.

Яго выпраменьваюць надзвычай светланосныя вершы Ніны Язэпаўны, ім праменіцца Мацяшоўскі паэтычны фестываль, які штогод ладзіцца ў Белаазёрску стараннямі дырэктаркі гарадской бібліятэкі Тамары Кузняцовай і на які з'язджаюцца госці з усёй Беларусі. А мне на душы святлее яшчэ і ад згадкі пра той незвычайны, самы запамінальны ў маім жыцці вальс у прыціхлай кватэры. Вальс з Нінай Мацяш.

**Міхась СКОБЛА.**

ЛЮДЗІ І СПРАВЫ

# Куцюр'е з беларускай вёскі

*Таццяна Русіняк з аграгарадка Путрышкі Гродзенскага раёна пасля заканчэння факультэта дызайну не змагла адразу знайсці працу. Але настойлівасць, любоў да прафесіі і дзяржаўная падтрымка дапамаглі ёй адкрыць у роднай вёсцы сваю справу.*

### Першая калекцыя на першым курсе

Таня Русіняк з дзяцінства любіла прыгожа апранацца, яе займала маляванне, і яна марыла ствараць жаночае адзенне. І калі паступіла ў каледж, то цэлымі вечарамі пасля заняткаў сядзела ў майстэрні і адточвала майстэрства малюнка.

«*Імкнулася дасягнуць дасканаласці*, – згадвае Таня. – *Прапрацоўвала ўсе свае хібы, на якія звярталі ўвагу выкладчыкі, падчас забываючы, што трэба ісці дамоў*».

Захапленне прывяло яе на факультэт дызайну ва Універсітэт імя Янкі Купалы. І ўжо на першым курсе пачаліся бяссонныя ночы. Універсітэцкая праграма значна адрознівалася ад таго, што вывучалі ў каледжы, але новыя магчымасці, майстэрня, цікавыя выкладчыкі і жаданне стварыць сапраўдную калекцыю далі плён.

Яе першая калекцыя называлася «Энліль». Таня цікавіцца міфалогіяй, і ў той час яе захапляла шумерскае боства. Таню заўважылі. За час свайго студэнцтва яна распрацавала некалькі калекцый жаночага адзення, з якімі брала ўдзел у паказе на вядомых у горадзе конкурсах: «Млын моды», «Этна стыль», Grodno Fashion Show, «Галерэя стылю», Belarus Fashion Week.

«*Перш чым зрабіць калекцыю, я падоўгу прапрацоўвала тэму, шмат чытала, праглядвала розныя відэа. Я імкнулася даведацца пра тое, што раблю, як мага болей, гэта станавілася часткай мяне,* – распавядае Таццяна. – *Самым складаным заўсёды было скласці канструкцыю, а потым пашыць*».



Пасля заканчэння ўніверсітэта дзяўчыну абяцалі ўзяць на працу ў некалькі гродзенскіх фірм, якія займаліся пашывам адзення. Але ў 2015 годзе эканамічны крызіс моцна падкасіў магчымасці беларускіх швейных прадпрыемстваў, і ад Таццяніных паслуг адмовіліся.

### Як проста пашыць спадніцу

Пачаліся будні, дробныя падпрацоўкі. Таня стала на ўлік у Цэнтр занятасці. Менавіта там ёй падказалі, што ёсць магчымасць атрымаць субсідыю ад дзяржавы на тое, каб весці прадпрымальніцкую дзейнасць.

«*Мяне нават словы кшталту «субсідыя» палохалі*, – згадвае Таццяна. – *А тут бізнес-план, камісіі, лічбы, справаздачы... Гэта быў няпросты шлях, але субсідыю атрымаць удалося, яна складала прыкладна тысячу долараў. Я набыла прафесійную швейную машынку, універсальны прас з парагенератарам, і з гэтага пачаўся новы этап у маім жыцці ў вёсцы Путрышкі*».

Першыя некалькі месяцаў да яе ніхто з вяскоўцаў за паслугамі не звяртаўся. Прыходзілі толькі блізкія і знаёмыя, у асноўным каб падрамантаваць адзенне.

«*Я не разумела, што патрэбна рабіць рэкламу, прапагандаваць свае паслугі. А потым проста напісала ад рукі абвестку і павесіла на аўтобусным прыпынку. Да мяне адразу прыйшлі пяць кліентаў. З гэтага ўсё і пачалося…*» – згадвае Таццяна.

Наступным крокам сталі абвесткі ў інтэрнэце, з'явілася свая старонка ў «ВКонтакте». Тыя, хто ўжо прыходзіў да яе, пачалі прыводзіць сваіх знаёмых.

«*Працы станавілася больш*, – кажа Таццяна. – *Гэта пачало забіраць увесь час, і на высокую моду, на распрацоўку калекцый яго ўжо не хапала. Я казала сабе, што павінна перастаць браць дробныя заказы па рамонце адзення, але ўсё ж працягвала гэта рабіць.*

*Дапамагло тое, што пра мяне праз інтэрнэт даведаліся кліенты з Гродна і нават з Мінска, заказы пайшлі індывідуальныя, складаныя, многія з іх даводзілася распрацоўваць так, як я рабіла гэта з калекцыямі*».



**Гэтая спадніца з калекцыі Тацціяны паехала ў Данію.**

### «Беларускае ўсё ў табе»

З часам праца перайшла на новы ўзровень. Таня зноў пачала цікавіцца, як прасоўваць свае паслугі, як па-новаму арганізаваць працу, навучылася сумяшчаць распрацоўку новых калекцый са звычайным рамонтам адзення для аднавяскоўцаў.

«*Апошнія паўгода мая праца пачала прыносіць прыбытак, мяне ведаюць у сацсетках, робяць заказы, кансультуюцца*, – распавядае Таня. – *А яшчэ я вяду гурток малявання ў школе. Гэта дае мне вялізнае задавальненне*».

Ні адзін са сваіх заняткаў Таня кідаць не збіраецца. Цяпер стараецца рабіць рэчы не толькі для паказу, але і практычныя, каб іх маглі насіць людзі.

Таццяна распавядае, што даўно задумвалася над беларускімі матывамі. Яна вучылася ў беларускай школе, гаворыць па-беларуску, ведае гісторыю сваёй краіны і любіць яе.

«*Але стварыць калекцыю адзення на падставе нашай этнічнай культуры пакуль не атрымліваецца*, – прызнаецца дзяўчына. – *Мне значна прасцей рабіць гэта з матывамі іншых культур. Там проста выхопліваеш веды аб культуры і дадаеш свае ўражанні. А тут беларускае ўсё ў табе, іператварыць гэта ў рэчы, каб яны ўсім спадабаліся, былі сучаснымі і іх з задавальненнем насілі, – гэта вельмі складана*».

### Жыць і працаваць на Радзіме

Цікаўлюся ў Таццяны: ці не думала яна аб тым, каб з'ехаць на працу за мяжу, як робяць зараз многія з яе равеснікаў? Дзяўчына на гэта ўсміхаецца і кажа, што за мяжой бывала, але для сябе зразумела, што занадта моцна любіць Гродна, сваю вёску, а таму з'язджаць нікуды не хоча.

«*Я зразумела, што займацца ў жыцці трэба тым, што радуе і прыносіць задавальненне*, – кажа Таццяна. – *Для мяне мая праца – гэта маё жыццё. Мне і ў галаву не прыходзіць скардзіцца: ой, заўтра панядзелак – зноў на працу*».

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

**Здымак аўтара і са старонкі Таццяны Русіняк у «Інстаграме».**

КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

## 20 верасня назавуць лаўрэата паэтычнай прэміі імя Наталлі Арсенневай

Сёлета на перамогу прэтэндуюць:

**Алесь Разанаў**. Перавыбранае. Выдавецтва Зміцера Коласа, Мінск.

**Антон Францішак Брыль**. Цмачанка. Выдавецтва «Янушкевіч», Мінск.

**Вальжына Морт**. Эпідэмія ружаў. Выдавецтва «Логвінаў», Вільня.

**Валянціна Аксак**. Завінены рай. Выдавецтва «Галіяфы», Мінск.

**Вольга Гапеева**. Граматыка снегу. Выдавецтва «Галіяфы», Мінск.

**Ігар Кулікоў**. Валадар загадак. Выдавецтва «Медысонт», Мінск.

**Іна Снарская**. Вогнепаклонніца. Выдавецтва «Кнігазбор», Мінск.

**Міхаіл Рубін**. Пераклад з Іншага. «Издательские решения» па ліцэнзіі Ridero.

**Усевалад Сцебурака**. Сны дарог. Выдавецтва «Медысонт», Мінск.

У склад журы прэміі Арсенневай 2018 года ўвайшлі **Андрэй Хадановіч**, **Вольга Іпатава**, **Дзмітрый Строцаў**, **Марыя Мартысевіч** і **Наста Кудасава.** Сябры журы не маюць права галасаваць за кнігі, рэдактарамі якіх яны былі.

Літаратурная прэмія імя Наталлі Арсенневай ушаноўвае аўтара ці аўтарку найлепшай паэтычнай кнігі на беларускай мове, выдадзенай у папярэднім годзе. Арганізатары прэміі – Беларускі ПЭН-цэнтр, ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». Узнагарода ўручаецца пры падтрымцы Фонду культуры і адукацыі Орса-Рамана і Харытатыўнага фонду Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі.

Прэмія заснавана ў гонар беларускай паэткі Наталлі Арсенневай (1903–1997) у 2017 г. і ўручаецца за найлепшую паэтычную кнігу на беларускай мове. Першым лаўрэатам прэміі стаў **Уладзімір Някляеў** за зборнік паэзіі «Толькі вершы».

Народная Воля http://www.nv-online.info 18 ВЕРАСНЯ 2018 г.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ




# Юрый БЛІНОЎ: «Запрашаю Сяргея Румаса на свой канцэрт…»

*Вядомы піяніст і адзін з заснавальнікаў футбольнага клуба «Крумкачы» распавёў «Народнай Волі» пра сваё захапленне музыкай і футболам.*

*Нагадаем, што ў гэтым сезоне «Крумкачоў» не дапусцілі да ўдзелу ў вышэйшай лізе, бо клуб не прайшоў ліцэнзаванне. Але сваё існаванне каманда не спыніла. Быў зарэгістраваны НФК «Крумкачы», у склад заснавальнікаў якога ўвайшоў у тым ліку і сусветна вядомы піяніст **Юрый БЛІНОЎ**...*

– Абсалютна не шкадую, што пайшоў на такі крок, – *кажа музыкант, які вырашыў звязаць свой лёс з футболам.* – Расчаравання няма, каманда ідзе на пазітыве. Я спадзяюся, што і далей так будзе.

**– У вас жа пастаянныя канцэрты, гастролі… Якім чынам пасняваеце прымаць удзел у жыцці клуба?**

– Мой удзел насамрэч даволі сціплы – я зараз хутчэй з'яўляюся ідэйным натхняльнікам каманды. Наколькі атрымліваецца, раблю ёй піяр, час ад часу праводзім сустрэчы футбалістаў з кіраўніцтвам клуба, на якіх абмяркоўваем планы, праблемы.

**– Сённяшнія «Крумкачы» моцна адрозніваюцца ад тых, што выступалі ў вышэйшай лізе?**

– Галоўнае адрозненне – гэта тое, што каманда павінна пачынаць, па сутнасці, з нуля. Хаця радуе, што балельшчыкі засталіся тыя ж, падтрымліваюць каманду, як і раней. Мы і зараз збіраем даволі шмат аматараў футбола. Безумоўна, у тыя часы, калі каманда гуляла ў вышэйшай лізе, інтарэс прэсы быў да нас значна большы, але і зараз без увагі не застаёмся. І ў першую чаргу з-за тых спартыўных вынікаў, што паказваем.

**– Некаторыя мяркуюць, што ў прыватнага футбольнага клуба ў Беларусі няма ніякіх перспектыў. Фінансава складана цягнуць такі воз…**

– Я не казаў бы пра гэта так песімістычна. Мы вельмі добра ведаем, што такая праблема насамрэч ёсць, і перш за ўсё яна знаходзіцца ў нашым заканадаўчым полі. Усё гэта не настолькі сур'ёзна, пакуль гуляем у другой лізе, але абсалютна зразумела, што калі зноў патрапім у элітны дывізіён, то пытанне трэба будзе вырашаць. І такія захады робім ужо зараз.

Дарэчы, мы ўжо адкрылі сваю дзіцяча-юнацкую школу на ўсе шэсць узроставых груп. А раней «Крумкачам» якраз дакаралі тым, што клуб не здолеў належным чынам наладзіць працу з рэзервам. Мы паказваем, што заклапочаны не толькі спартыўнымі вынікамі, але і дбаем пра футбольную змену.

**– У краіне працуюць такія законы, што калі спонсар падтрымлівае футбольны клуб з дзяржаўнай доляй уласнасці, то атрымлівае за гэта льготы. Калі бізнесмен вырашыў дапамагчы прыватнай камандзе, то ў лепшым выпадку атрымае вусную падзяку. Нейкае несправядлівае ў нас стаўленне да дзяржаўных і прыватных клубаў…**

– Я заўсёды казаў і кажу, што існаванне такога клуба, як «Крумкачы», гэта вялікі плюс для беларускага футбола і для краіны, бо пасля выхаду прыватнага клуба ў вышэйшую лігу рэзананс быў не толькі ўнутры Беларусі, але і за мяжой.

Акрамя таго, у нас вельмі добра наладжана праца з балельшчыкамі, і ў гэтым плане таксама можам даць фору палове беларускіх футбольных клубаў, якія гуляюць у вышэйшай лізе.



І яшчэ важна, што «Крумкачы», нягледзячы на ўсе цяжкасці, з якімі даводзілася сутыкацца апошнім часам, фактычна сталі брэндам, які мае свой пэўны вобраз. І гэта, трэба сказаць, даволі ўнікальны вобраз і станоўчы феномен.

**– Чаму тады дзяржава не падтрымлівае гэты «станоўчы феномен»?**

– Мне падаецца, што частка людзей, якія маглі б паўплываць на гэта, не могуць да канца зразумець, якія дывідэнды тут можна атрымаць. А другая частка, напэўна, мае дачыненне да іншых клубаў, якім не патрэбны дадатковыя канкурэнты. Зразумела, што пры роўных умовах ёсць рызыка, што мы спрацуем лепш, чым іншыя.

Думаю, каб нешта змянілася ў гэтым накірунку, патрэбны комплексныя намаганні – і публічныя, і кулуарныя таксама.

**– Не так даўно новым прэм'ер-міністрам краіны прызначаны дзеючы старшыня Федэрацыі футбола Сяргей Румас. Можа, варта наўпрост да яго звярнуцца са сваімі прапановамі?**

– Калі ён любіць класічную музыку, то няхай бы прыйшоў на мой канцэрт – гэта можна лічыць запрашэннем. А пасля канцэрта можна было б паразмаўляць у больш рэлаксавай абстаноўцы і пра футбол.

**– Калі вярнуцца да вашай каманды… Нейкія заробкі футбалісты маюць?**

– У нас камбінаваная сістэма аплаты. Частка ігракоў мае асноўную работу, а ў камандзе яны атрымліваюць толькі прэміяльныя за канкрэтны вынік і асабістыя заслугі. Таксама ў некаторых футбалістаў (у асноўным маладых), ёсць пэўны заробак. Адным словам, тут да кожнага індывідуальны падыход, але ніхто не скардзіцца.

**– Спонсара знайсці зараз складана?**

– Шчыра скажу: у гэты час мы вядзём перамовы з пэўнымі людзьмі, каб атрымліваць сталую падтрымку ў новым сезоне. І гэтыя людзі рэгулярна ходзяць на мае канцэрты і ведаюць мяне як музыканта і аднаго з заснавальнікаў «Крумкачоў».

**– Каманда таксама прыходзіць на вашы выступленні?**

– Безумоўна, былі і ў мінулым годзе, і ў гэтым. Памятаю, у красавіку гэтага года на канцэрт завітаў футбаліст Аляксей Хадневіч, а пасля гэтага была адказная гульня супраць «Клецка». І Аляксей забіў вельмі важны гол. Затым ён прызнаўся, што на гэта яго натхніла музыка. Проста цудоўна, калі так атрымліваецца!

**– Калег па музыцы не здзіўляе ваша новае захапленне?**

– Усе вельмі станоўча ставяцца да гэтага, але пры гэтым цікавяцца, як я дайшоў да такога жыцця. Дарэчы, магу сказаць, што сярод прафесійных піяністаў у свеце вельмі шмат футбольных заўзятараў. А некаторыя і ўвогуле ў дзяцінстве і юнацтве займаліся футболам. Напрыклад, італьянскі піяніст Давідэ Кабасі ў свой час трэніраваўся ў школе славутага «Інтэра».

**– Сям'я таксама ўжо прызвычаілася да вашага новага статусу?**

– Па магчымасці стараюся больш часу праводзіць з сям'ёй і сынам Міраславам, якому хутка споўніцца 5 год. Ён ужо і на гульнях «Крумкачоў» быў, але ўвесь матч яму яшчэ складана выседзець на стадыёне. Дарэчы, сына назваў у першую чаргу ў гонар нямецкага футбаліста Міраслава Клазэ.

**– Будучы футбаліст ці музыкант?**

– Пакуль яшчэ рана нешта казаць, але бегае ён хутка. Што да музыкі, то Міраслаў ужо сам садзіцца за інструмент і спрабуе нешта іграць.

**– Жонка змірылася з вашай любоўю да футбола?**

– Напачатку не ўсё было гладка, але футбол заўсёды быў часткай нашага сямейнага жыцця. Напрыклад, у свой час мы разам вельмі перажывалі за нямецкую «Баварыю». Маім кумірам быў Басціян Швайнштайгер, жонка захаплялася Ар'енам Робенам.

**– Сямейны бюджэт не пацярпеў ад вашага супрацоўніцтва з «Крумкачамі»?**

– Скажам так: сям'я не засталася без сродкаў да існавання. Хапае на ўсё.

**– Але ж жаночая логіка такая: замест грошай і часу, што патрачаны на футбол, можна было б купіць любімай жонцы яшчэ адзін пярсцёнак…**

– Тут я дзейнічаю парытэтна. Калі патрачу нешта на футбольны клуб, то абавязкова куплю штосьці і для сям'і.

**Алесь СІВЫ.**

ШАШКІ

## Віншуем!

Падведзены вынікі чэмпіянату свету па шашачнай кампазіцыі ў жанры «дамачныя і поліпраблемы». Пасля падвядзення папярэдніх вынікаў першым быў масквіч **Уладзімір Матус**, але дадатковыя заўвагі, знойдзеныя **Міхаілам Цветавым** з Ізраіля, вывелі на 1-е месца беларускага кампазітара **Рыгора Краўцова**. Ён апярэдзіў тытулаванага маскоўскага грасмайстра толькі на адно ачко. Дарэчы, Рыгор Канстанцінавіч быў першым трэнерам нашых славутых шашыстак **Дар'і** і **Вольгі Федаровіч**. Адна з іх з'яўляецца дзеючай чэмпіёнкай свету па міжнародных шашках. Другая мае самы высокі рэйтынг сярод жанчын.

Барацьба за прызавыя месцы была вельмі ўпартай. 2-е месца – **Уладзімір Матус**, 3-е – **Аляксандр Маісееў** (ЗША), 4-е – **Міхаіл Цветаў** (Ізраіль), 5-е месца – **Міхаіл Фёдараў** (Украіна). Знаёмім з творамі ўдзельнікаў гэтага спаборніцтва.



№1 **Уладзімір Матус.**

**Белыя**: дамкі 5, 25, 35, шашкі 14, 19, 30 (6).

**Чорныя**: дамкі 10, 12, 27, 32, шашкі 11, 15, 29, 37, 39 (9).

13(2**AB**), 20, 19(14**C**), 16 x. C(24), 16 x. **A**(8), 20, 19(14**D**), 26 x. **D**(24), 16 x. **B**(20), 18(3), 24(42**E**), 31(47**F**), 25-20, 48, 35-30, 14 x. **F**(15-20), 48, 20, 35-30(39), 23 x. **E**(41), 18-9, 24, 46 x.

Уражваюць колькасць варыянтаў і разнастайныя рэдкія фіналы.

№2 **Рыгор Краўцоў.**

**Белыя**: дамкі 1, 6, 50, шашкі 7, 12, 20, 27 (7).

**Чорныя**: дамкі 4, 35, шашкі 10, 13, 15, 16, 41, 42 (8).

8, 36(31**A**), 13!(24**B**), 30(24**CDEF**), 11, 4 x. **C**(19), 11, 5 x **D**(13), 11, 15 x. **E**(8), 11, 3 x. **F**(2), 7, 6(21), 28(15), 32(26), 37(20), 42(25), 48 x. **A**(24), 17, 38(21**G**), 16(19), 8, 1-7 x. **G**(49), 6/50(21), 11, 26 x. **B**(2), 50-6, 7, 4 x.

Вельмі эфектны трэці ўдар галоўнага варыянта.



№3 **Аляксандр Маісееў.**

**Белыя**: дамкі 5, 7, 17, 19, 25, 30, 49, шашкі 14, 20, 21, 23, 24, 28, 33, 35, 37, 38, 39, 42, 43 (20).

**Чорныя**: дамкі 3, 8, 9, 13, 26, 27, 46, 48, 50, шашкі 10, 16, 32, 40, 41, 44 (15).

7-11, 6(34), 1 **z**.47(28), 22, 32 **z1**,12, 44, 27, 43, 8, 4 x. **z** 28-23?(12), 28, 2, 1(17), 45(17-22, 4, 47, 5) x =. **z1** 46?, 1(48), 45 =.

Маштабная задумка!

№4 **Міхаіл Цветаў.**

**Белыя**: дамкі 1, 6, 50, шашкі 7, 12, 20, 27 (7).

**Чорныя**: дамкі 4, 35, шашкі 10, 13, 15, 16, 41, 42 (9).

33-29, 48 (43**A**), 41(20**BC**), 10, 34, 15 x. **A**(24), 47, 23(29), 34, 45:20 x. **B**(42), 4, 34,47 x. **C** (34), 29(42**D**), 4, 45-18, 48 x. **D**(20), 10, 45-18, 25 x.

Разнастайныя варыянты і фіналы.

№5 **Джэрард Ціменс** (Нідэрланды).

**Белыя**: дамка 12, шашкі 7, 11, 17, 20, 29, 34, 38, 43, 47 (10).

**Чорныя**: дамка 39, шашкі 1, 6, 9, 10, 18, 19, 23, 27, 28, 31, 32, 37 (13).

**VP**42, 3(39**VPI**), 172 ,15(34**AB**), 4(12), 21(16**C**), 27(21), 16 x. **VPI**(21), 26, 15 x. **A**(43), 4(34**C**), 3(12), 49 x. **B**(12), 4(43), 48(34), 32/49 x. **C**(43), 49 x.

№6 **Аляксандр Мікалаеў** (Расія).

**Белыя**: дамка 35, шашкі 15, 17, 20, 21, 24, 27, 31, 32, 37, 43, 44, 48, 49 (14).

**Чорныя**: дамкі 1, 26, шашкі 5, 8, 9, 12, 14, 16, 25, 29, 33, 34, 40, 42 (14).

43-39, 47, 22, 10, 4(21), 45(14**A**), 10, 29, 25, 26, 37, 42 x. **A**(42), 39(34), 3, 20(41), 48-42(10, 46), 27, 37, 47 x.

## Для самастойнага разгляду

Кампазіцыі ў рускія шашкі прапануем для самастойнага рашэння. Ва ўсіх пазіцыях белыя пачынаюць і выйграюць. Пазіцыі №№7–9 належаць мінчаніну **Валерыю Свізінскаму**.

№7 **Белыя**: a5, b4, b6, d2, e1, g3, h2 (7).

**Чорныя**: a7, c3, d4, d6, e5, f6, f8, g5 (8).

№8 **Белыя**: a7, b2, c1, d2, f4, g5 (6).

**Чорныя**: a3, a5, b4, c5, c7, d4, e7, g7 (8).

№9 **Белыя**: a3, a5, b2, b4, e7, g1, h2 (7).

**Чорныя**: a7, b6, b8, c7, d8, f2, f4 (7).

Аўтар наступных праблем **Аляксандр Кагоцька** (Бабруйск).

№10 **Белыя**: a7, b6, c7, e1, f2 (5).

**Чорныя**: c3, d4, d8, e3, e5, g5 (6).

№11 **Белыя**: a5, c7, e1, f2, f6, g5 (6).

**Чорныя**: b2, b4, c3, d4, h2, h6 (6).

## Супаставім рашэнні

***«Народная Воля» ад 17 ліпеня 2018 года.***

**№2** – f8, f4, f4, f4 x.

**№3**– c5, b4, de7, c7(b:d6), hg5, g3, e1, d2(g5), h6(c3), c1 x.

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка), **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Эдуард Дамброўскі, Віталь Варушыла**, **Іван Наўроцкі** (Мінск), **Аляксандр Шурпін** (Івянец), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Мікалай Зайцаў** (Баранавічы), **Рыгор Краўцоў** (в.Рублёўск Круглянскага раёна), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Ігар Ананіч** (Гродна), **Уладзімір Панько** (Камянец).

Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць!

Свае лісты дасылайце на адрас: ***220030, Мінск, вул. Энгельса, 34а, «Шашкі»*** або на электронны адрас рэдакцыі: ***shulga.checkers@gmail.com***.

**Віктар ШУЛЬГА,**
**міжнародны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.**

ПЫТАННЕ–АДКАЗ

## Ці заплацяць за Паўла Савіцкага?

*«Пасля пераходу футбаліста з гродзенскага «Нёмана» ў брэсцкае «Дынама» разгарэліся страсці вакол кампенсацыі за ігрока. Чым скончылася гэта справа?»*

**Віктар ЗАЛУЦКІ, г.Ліда.**

– На пасяджэнні камітэта па статусе і трансферах футбалістаў Федарацыі футбола была разгледжана заява футбольнага клуба «Нёман» да брэсцкага «Дынама» аб выплаце кампенсацыі за падрыхтоўку і навучанне Паўла Савіцкага.

У выніку вынесена рашэнне, што брэсцкі клуб павінен часткова задаволіць патрабаванні ФК «Нёман». Яму неабходна выплаціць гродзенцам за футбаліста каля 400 тысяч долараў.





## Беларуская спартсменка атрымала медаль праз 10 гадоў

*«Чуў, што на нядаўнім чэмпіянаце свету па сучасным пяцібор'і нашай лёгкаатлетцы Анастасіі Пракапенка ўручылі медаль за Алімпіяду 2008 года. Гэта так?»*

**Сяргей ЛЯЎКОВІЧ, Віцебск.**

– На Гульнях-2008, якія праходзілі ў Пекіне, беларуска заняла чацвёртае месца, а «бронзу» тады атрымала ўкраінка **Вікторыя Церашчук**. Але аналізы ўкраінскай спартсменкі пераправерылі, і яе допінг-проба паказала наяўнасць анабалічнага стэроіду.

Зараз у адпаведнасці з рашэннем Міжнароднага алімпійскага камітэта ўзнагарода перададзена нашай суайчынніцы.

Медаль Анастасіі Пракапенка ўручылі на чэмпіянаце свету па сучасным пяцібор'і ў Мехіка, дзе яна, да слова, заваявала золата ў асабістым заліку і ў жаночай эстафеце.

## З кім яшчэ згуляе зборная Беларусі па футболе?

*«У Лізе нацый наша нацыянальная футбольная каманда правяла ўжо два матчы. Хацелася б даведацца пра расклад астатніх гульняў…»*

**Андрэй МАНДРЫК, г.Маладзечна.**

– Як вядома, у групе са зборнай Беларусі гуляюць яшчэ тры каманды – Сан-Марына, Люксембурга і Малдовы. Беларусы ў першым матчы на сваім полі разграмілі Сан-Марына – 5:0, а затым згулялі на выездзе ўнічыю з малдаванамі – 0:0.

Зараз турнірная табліца выглядае так: Люксембург (2 матчы, 6 ачкоў), Беларусь (2, 4), Малдова (2,1), Сан-Марына (2,0).

Нагадаем, што барацьбу працягне толькі каманда, якая зойме ў групе першае месца.

Расклад астатніх матчаў з удзелам беларускай каманды:

**12 кастрычніка:** Беларусь–Люксембург.

**15 кастрычніка:** Беларусь–Малдова.

**15 лістапада:** Люксембург–Беларусь.

**18 лістапада:** Сан-Марына–Беларусь.

НУ И НУ!

## Ледовых дворцов настроили, а клюшек нет

*Главный тренер жлобинского «Металлурга» пожаловался на отсутствие инвентаря.*

После поражения хоккейного «Металлурга» от столичной «Юности» (0:6) у наставника жлобинской команды **Александра Полищука** поинтересовались, почему его хоккеисты, играя в большинстве, так мало бросают по воротам соперника. Ответ многих просто шокировал!

*«Я не хочу, чтобы это воспринималось как какая-то жалоба, но мы боимся бросать, потому что банально нет клюшек,* – ответил тренер «Металлурга». – *Кстати, спасибо Михаилу Михайловичу* (Михаил Захаров – главный тренер «Юности». – **Ред.**)*, что в третьем периоде выручили нас одной. Почти в каждой игре люди садятся на лавку, потому что банально дальше нечем играть. Например, в третьем периоде хоккеисты «Юности» передали клюшку нашему защитнику».*

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.

Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.

Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.

nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:

63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



9 772071 964000 18074

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 17.09.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 295 экз. Заказ № 3345.